Аліса МІНІНА

# ТОЛЬКІ Б ЗАХАЦЕЦЬ ЗІХАЦЕЦЬ...



***Аліса Мініна нарадзілася 3 сакавіка 1993 года ў Асіповічах. Студэнтка Інстытута журналістыкі. Вучыцца спакою, піша харэі, прыпыняе джаз. Марыць выдаць асаблівы танцавальны слоўнічак з малюнкамі.***

Не пісаць нам цяпер,
Не ісці, не верыць.
Узгадай — адзін май
І адзін верасень.

Небакрай не кранаць,
Не круціць кранаў.
Люты — Познер,
А чэрвень занадта рана.

Не спяваць на сон,
Не гайдаць калыску.
Забывай — ціхі жнівень,
Кастрычнік — хісткі.

Снежань — кропка,
А студзень... доўгая рыска
Тры куты, чатыры куты,
І выйсце.

Не збіраць ажынаў.
Што ты тут зробіш?
Пінск — дажджы,
Буйныя дажджы ў дробі.

* * *

Толькі б захацець
Зіхацець.
Толькі не забаяцца
Быць хоку, быць танка
Быць танцам.
Быць лёгкай —
У дваццаць,
Чырвонай — у сорам.
Знайсці сабе хлопца —
Не вочы, а зоры,
Знайсці сабе месца
Не горад — а мора,

Дзе дыхаць глыбока.
А ты нараджаешся
Простым алоўкам,
Звычайнай паперкай,
Ногі ў цыпках.
Ну што за манеры
Ціхенька цыкаць
І хлусіць у вочы?
А ён бярэ цыркуль
І крэсліць, і крочыць,
І баіць напеўна.
А боль такі моцны,
Што нават прыемна,
Што нават не дзіўна...

А ты нараджаешся
чоўнікам з дзіркай.

* * *

Ты такі ўжо дарослы звонку,
Але трэба яшчэ вучыцца,
Як паштоўкі паміж старонак
Зберагчы свае таямніцы.

Ганьбу, каб не вярталася плеццю,
Плёткай чыейсьці балбатлівай жонкі,
Лекі свае, каб ніхто ў свеце
Не здагадаўся, дзе рвецца тонка.
Узрост — каб рукаліся сытыя твары.
Грошы — ці кроны, ці франкі, ці літы.
Зараз паўшэптам: нікога-нікога
Не далучай да святой малітвы.
Часам бывае і цяжка, і груба —
Шчыліну ў хаце трымай рукою,
Гэта простае правіла, любы!
Кубак пашаны — на кубак спакою.
І не чакай падарункаў лёсу,
А як раптам што зваліцца з неба:
П’яны пішы, рэдагуй цвярозы,
Толькі казаць не трэба!

* * *

Згубіўся, блукаў
Апантаны нечым,
Намулялі боты — знямог.
Дайшоў, прытуліўся:
радасць сустрэчы
я — дрэўца паміж дарог

Самотнае сінім цвярозым ранкам
Сыходзіў. На паўшляху вяртаўся,
Люляў, спяваў калыханкі,
Каб заўтра зноўку сысці.

Па рэйках ляцеў, раствараўся ў маі,
У птушак браніраваў дах
Лічыў, что вяртанні «прыкмета благая»,
Але ж паварочваў на пах.

Танюткі і спелы восеньскі водар,
Дрыготкі драўляны стан.
Казаў: «Я ў палоне» і з гэтай нагоды
Першы яблык дастаў.

Частуйся, каштуй, адпачні на лоне,
Увайдзі ў тую ж ваду.
Я чырваннем яблычным у далоні
Твае сарвуся, упаду.

* * *

Ноч не клеіцца.
Наўпакі — свеціць у вочы.
Трэш шурпатыя ступакі —
Не дзявочыя.
Выдумляеш чарговы план:
Плён і травень.
Чуеш, у кухні бурбоча кран...
Круціць страўнік.
Голаў светлы і залаты.
Толькі рыбкай
З самаробнай маёй вуды
Скочыць рыфма.
Адбівай ужо, не цягні,
Гэты мячык.
Я цяпер усё на зямлі
Растлумачу.
За суседаў залезу плот
У пах вішнёвы
І пісаць магу круглы год
На замовы.
Абадраць на гарбатны дым
Кветкі ліпы.
Нікуды, нікуды, нікуды
Больш не ўліпнуць.

* * *

Ты і сам разбурыў наш апошні мост —
Не руйнуй. Будзе дзень, будзе час, будзе пост —
Не раўнуй. Не глядзі ўглыб, не хістай ў бакі,
Не пытай у рыб, дзе канец ракі —
Не сумуй. А як сум, а як сын, як сон у руку —
Нам подараць кожнаму па мастаку,
Прынясуць у дзюбе. Яны без і бэз, і дом на рагу
Намалююць. Панальюць вады, прынясуць вуду,
Калі я прыду паглядзець,
Не шкадуй — Trast and fall
Не псуй словаў...
Яна ў цябе будзе анёл,
Вядома, што папяровы.

* * *

Калі я прыду паглядзець на ваду, пашкадуй.
Паспрабуй адшукаць паміж дзвюх прывакзальных вежаў
Калі ты па праспекце, я з табой поруч пайду.
Калі ты да мяжы — я пужаюся межаў.
Я сачу за тваёй упартай нервовай хадой
У драным зэдліку нейкай старой кіназалы.
Я — твой першы прыхільнік. Ты — мой лепшы настрой.
І прабач, што раней я такога табе не казала.
Ты не так ўжо глыбока, прыкладна, дно Пцічы,
Спуск у метро, пустая більярдная луза...
Ты прыходзь — пасядзім, памаўчым,
Дачакаемся нашай музыкі.

